Бог, Беларусь, Воля!

# Голас КРАЮ

Газэта беларускіх нацыяналістаў

№5-6, травень-чэрвень 2000

Шаноўныя чытачы! З мэтай пашырэньня кола сталых чытачоў працягваецца падпіска на нашае выданьне. Замаўляйце і чытайце "Голас Краю" -- газэту беларускіх нацыяналістаў.

Адрас рэдакцыі:
220037
г. Менск а/с49






# СЁНЬНЯ МЫ ТВОРЫМ НАШУ ГІСТОРЫЮ

***Відавочны сёньня крызіс улады можа стаць пачаткам канца існуючага антынароднага рэжыму. Але толькі ў тым выпадку, калі апазыцыя праявіць палітычную волю і прынцыповасьць у нацыянальным пытаньні. У іншым выпадку мы рызыкуем яшчэ на многія гады адцягнуць здабыцьцё і станаўленьне Беларускай Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы.***

Заціхаюць спрэчкі пра сутнасьць працэсу інтэграцыі Беларусі ў Расею. Навідавоку палітыка анэксіі з боку Расеі. Мы, беларускія нацыяналісты, ніколі ня верылі ў добрыя памкненьні Масквы. Бо мы ўспрымаем урокі гісторыі. Калі ў мінулым расейцы практыкавалі адкрытую ваенную экспансію і палітыку насаджэньня чыноўнікаў-расейцаў, то сёньня яны пасьпяхова ажыцьцяўляюць эканамічную экспансію. Прадстаўнікі расейскага крымінальнага бізнэсу скупляюць беларускія прадпрыемствы прамысловасьці, гандлю, банкі. Фінансавая сістэма Беларусі губляе апошнія прыкметы самастойнасьці. На высокім узроўні вядзецца абмеркаваньне будучага аб'яднаньня дзьвюх фінансавых сістэмаў і ўвядзеньне агульнай валюты (расейскага рубля, пэўна ж). У рэшце рэшт гэта будзе азначаць зьнікненьне яшчэ адной прыкметы дзяржаўнасьці (хай сабе і прывіднай) – незалежнай фінансавай сістэмы *Працяг на с. 2.*

**"Чалавек, які ідзе на службу Нацыянальнай Ідэі, становіцца ня толькі сьведамым грамадзянінам, але й тварцом новага жыцьця".** В. Гадлеўскі.

*Працяг са с.1.*

А як вядома, фінансава-эканамічная сфэра – стратэгічна важная для дзяржавы. Хто яе кантралюе, той уладарыць. Татальная залежнасьць ад Расеі прывядзе да аднаго з двух варыянтаў развіцьця падзеяў:

1.У выпадку глябальнага эканамічнага крызісу ў Расеі Беларусь апынецца ў глыбокай эканамічнай дэпрэсіі. А гэта – беспрацоў'е, холад, голад. Гэтае выпрабаваньне можа мець жудасны вынік для будучыні Беларусі. Тады нашыя шанцы дасягнуць узроўню эканамічна разьвітых краінаў Эўропы наблізяцца да нуля.

2. У выпадку эканамічнага пад'ёму ў Расеі, Беларусь будзе канчаткова ўцягненая ў фінансава-эканамічную прастору Расеі. Нашыя канкурэнтназдольныя прадпрыемствы (машынабудаваньня, нафтаперапрацоўчыя) будуць працаваць на расейскага капіталіста, або збанкрутуюць, як гэта было ў Расеі пасьля прыватызацыі. Тады пра зьдзяйсьненьне інтарэсаў беларусаў няма гаворкі. Народнае дабро разыйдзецца па кішенях расейскіх алігархаў і прадажных чыноўнікаў. Калі Расея канчаткова замацуецца ў нашым краі, то галашэньнні дэмакратаў па дыктатуры й правох чалавека застануцца непачутымі нават на Захадзе. Ня мае правоў той народ, які за іх не змагаецца. Народ стаючыся інэртным, безыніцыятыўным, абыякавым, паступова страчвае павагу да самога сябе, драбнее, марнее, ператвараецца ў этнаграфічную масу і, стаўшы угнаеньнем чужынскіх сілаў, у рэшце рэшт зьнікае з твару зямлі. Факты гісторыі яскрава сьведчаць аб гэтым. Зьніклі з твару зямлі многія народы. Няўжо нас чакае такі лёс ? Мусіць, не ! Беларускі Народ упісаў сваё імя залатымі літарамі ў сусьветную гісторыю. Беларуская дзяржаўная арганізацыя была адной з найлепшых у сярэднявечнай Эўропе. Дзякуючы мудрай палітычнай эліце, мужным ваярам – абаронцам Айчыны, працавітым сялянам і рамесьнікам беларусы здабылі свайму краю славу, а сабе – шчасьце і дабрабыт.

> "Ступаючы на шлях барацьбы за свае грамадзка-палітычныя мэты, за месца пад сонцам у коле іншых вольных народаў, за дзяржаўную суверэннасьць, за працяг і сьцьвярджэньне свайго існаваньня, народ падымаеца на вышэйшую прыступку і становіцца Нацыяй..."

Сёньня нашая ўсходняя суседка спрабуе ня толькі падпарадкаваць нас эканамічна і палітычна, але і пазбавіць беларусаў памяці і гісторыі, зганьбіць нашыя нацыянальныя сьвятыні. У такой сытуацыі ўвесь цяжар адказнасьці за лёс Бацькаўшчыны, Беларускай Нацыі ўскладаецца на кожнага грамадзяніна Беларусі.

Заняпад і сьмерць, альбо воля і росквіт чакае нас. Іншага выбару нам не дадзена. І нам няма чаго саромецца, бо мы не прыхадні, не акупанты . Мы гаспадары на сваёй зямлі і нашая будучыня мусіць належаць толькі нам.

***Яўген Садоўскі***

# ЗЬЕЗД

Калі аддаць перавагу не сваім вачам, а паведамленьням СМІ, то можа скласьціся ўражаньне, што Ўсебеларускі зьезд наблізіць краіну да сапраўднай Незалежнасьці.

Нягледзячы на тое, што ідэя правядзеньня Ўсебеларускага зьезду належыць беларускай інтэлігенцыі, без удзелу палітычных апазыцыйных сілаў ён наўрад ці зможа дасягнуць неабходных маштабаў. Аднак складваецца ўражаньне, што прадстаўнікоў цяперашніх апазыцыйных партыяў куды больш клапоціць асабісты імідж, бо сёньня ніхто зь іх няздольны ўзяць на сябе ролю палітычнага лідэра беларускай апазіцыі і ўсяго народу. Асабіста мне здаецца, што цьмянае стаўленьне і неакрэсьленасьць, зь якой значная частка апазыцыі выказваецца ў дачыненьні да будучага Зьезду, толькі пацьвярджае гэта. За чатыры месяцы партыі ня здолелі вылучыць нават сваіх дэлегатаў, нягледзячы на тое, што ідэя Зьезду ўпершыню прагучала амаль пяць месяцаў таму.

І таму якія б словы не гучалі: аб тым, што "зьезд замацуе ў сьвядомасьці не толькі беларускіх грамадзян, а і ўсяго сьвету рашучасьць, што Беларусь застанецца самастойнай дзяржавай", мне падаецца, словамі і застануцца. Бо чым з большым пафасам пачыналіся акцыі (успомніць гратэск леташніх прэзыдэнцкіх выбараў, народныя гуляньні 20 ліпеня 1999 года), тым больш расчараваньня яны пакідалі. Бо прадстаўнікі розных апазыцыйных партый казалі пра суверэнітэт, спрачаліся пра легітымнасьць прэзыдэнта, размаўлялі пра нейкі кампраміс, пагаджаліся (альбо не) ісці на восеньскія выбары ў Вярхоўны Савет. Але ні ад воднага зь іх я так ні разу і не пачула слоў пра любоў да сваёй краіны, да сваёй зямлі.

*К.Александровіч*

# НАЦЫЯ ПЕРАД ВЫБАРАМ

Так здарылася, што нашая Бацькаўшчына апошнія дзьвесьце гадоў знаходзіцца пад маскоўскай акупацыяй. Вайсковая экспансія Масквы на Беларусь (колішняе Вялікае княства Літоўскае) распачалася ў канцы 15 ст. і скончылася трэцім падзелам Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст. Другім інструментам зьнішчэньня калісьці магутнай беларускай дзяржавы былі закулісныя інтрыгі і палітычны ціск праз сваіх стаўленьнікаў-паслугачоў. Пры гэтым маскавіты ня грэбавалі подлымі сродкамі, ня вартымі хрысьціян. Забівалі мужчын, гвалцілі жанчын, рабавалі храмы, палілі вёскі...

Праз стагодзьдзі акупацыі беларусы пранесьлі паходню змаганьня за волю сваёй краіны. У зацятай барацьбе з Масквой гінулі заўсёды лепшыя. І нягледзячы на значныя страты, нягледзячы на зьдзекі акупантаў зноў і зноў уздымаўся штандар барацьбы за беларускую дзяржаву, як умову існаваньня і росквіту нацыі. Нягледзячы ні на што, Беларуская Нацыя бараніла свой гонар і адстойвала свае правы на волю. За любоў да сваёй Радзімы мільёны беларусаў заплацілі сваімі жыцьцямі або былі сасланыя ў Сібір на згубу. І ўсё ж нацыя працягвала нараджаць Герояў. *Працяг на с.13*

# СМУТАК І НАДЗЕЯ

**У выніку антынацыянальнай дзейнасьці ППРБ і яго зграі Беларускі Народ апынуўся ў глыбокай эканамічнай яме. Гэтая яма можа стаць для нас магілай, калі мы ня здолеем асэнсаваць усяе небясьпечнасьці сытуацыі, што склалася, і ня вызначым прычынаў яе ўзнікненьня і шляхоў пераадоленьня дзеля выратаваньня Нацыі.**

Чатырнаццаць доўгіх гадоў Беларускі Народ вынішчаюць "мірным атамам" акупацыйныя ўлады. Мала таго, што Масква ўчыніла на сьвятой беларускай зямлі самую жудасную катастрофу ў гісторыі чалавецтва, дык яна і сёньня працягвае карыстацца Чарнобылем як д'ябальскай зброяй для вынішчэньня Беларускай Нацыі. Маладых беларусаў заганяюць у "зону", нібы быдла на бойню. Нас кормяць атручанай ежай. Гэта паступова забівае нас, нашых дзяцей, унукаў і пакаленьні ненароджаных беларусаў. Здаровых дзяцей амаль не нараджаецца, а тыя, хто народжаны, непазьбежна прыдбаюць цяжкія захворваньні з-за паслабленага экалагічнай сытуацыяй імунітэту. Усё больш сярод нас невылечна хворых на анкалагічныя і спадчынныя хваробы. Генафонд нацыі прыйшоў у заняпад...

Гэтая жудасная карціна зьяўляецца наступствам антынацыянальнай палітыкі марыянеткавага прамаскоўскага рэжыму Лукашэнкі і яго папярэднікаў, якіх не хвалюе лёс народу.




Беларуская Нацыя ўшаноўвае памяць ахвяраў Чарнобыля.

За гады, што прайшлі з моманту Чарнобыльскай катастрофы, улада зьмянялася некалькі разоў: камуністы, дэмакраты-наменклатуршчыкі, лукашысты. Дзяліліся мандаты, пасады, грошы, улада, СМІ... Нават Беларускі Народ падзялілі на правільных і няправільных, нармальных і ненармальных. Шмат прыгожых словаў было сказана з высокіх трыбунаў. А дзе ж справы?

За гэтыя чатырнаццаць гадоў было ўсё: цяжкія злачынствы палітыкаў супраць Беларускага Народа, здрады ў стане апазыцыі... Здавалася – вось-вось зьдзейсьніцца д'ябальскі плян Масквы па вызваленьні Беларусі ад беларусаў. Здавалася – у Беларускай Нацыі няма будучыні...

Але не дачакаюцца нашыя ворагі. Насуперак усім іхнім плянам і праграмам Беларусь не зьбіраецца класьціся ў труну. Нацыя стыхійна супраціўляецца зьнішчэньню, і гэтае супраціўленьне перарастае ў арганізаваны супраціў. Сёньня людзі



выходзяць на вуліцы гарадоў, каб выказаць свой пратэст і гатоўнасьць абараніць Беларусь.

Падводзячы вынікі "Гарачай Вясны 2000", можна сказаць, што яна хаця і не прынесла рэальных вынікаў, але наблізіла час перамогі Беларускага Народа ў барацьбе з маскоўскімі акупантамі. Прайшоўшыя ўвесну акцыі паказалі, што сьвятыя ідэі незалежнасьці, нацыянальнай дзяржаўнасьці знаходзяць у народзе падтрымку. А гэта добры знак. Ён дае надзею на выратаваньне і натхняе ўсе здаровыя нацыянальныя сілы на стваральную працу ў імя вялікай Беларускай Нацыі.

*Яўген Садоўскі.*

**Нацыянальная ідэя. Дзеля яе варта жыць, а калі трэба – нават памерці.**


Яднаньне -- умова жыцьця і росквіту Нацыі.

# ЯДНАНЬНЕ ВАКОЛ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

Вось і адышла ў гісторыю "Гарачая вясна 2000". Шматтысячныя акцыі паказалі вялікую актыўнасьць і рашучы настрой грамадзкасьці. Але акцыі не прынесьлі жаданых вынікаў. Чаму так адбылося?

На пачатку "Гарачай вясны 2000" апазыцыйныя фукцыянеры абяцалі прывесьці нас да перамогі над антыбеларускім рэжымам Лукашэнкі. Але словы засталіся словамі. У чым жа справа ? Ці нашыя дзеячы не жадаюць зьмены становішча, ці яны няздольныя нешта зьмяніць. І тое і другое дрэнна. З гэткага становішча трэба рабіць высновы. Як бы цяжка ні было пагадзіцца з тым, што тыя людзі, якіх прынята называць палітыкамі, няздольныя нешта зьмяніць і недастаткова зацікаўленыя ў зьменах. Да таго ж, большасьць апазыцыянераў не валодаюць тымі маральнымі якасьцямі, якія павінны адрозьніваць палітычную эліту Беларускай нацыі. Штораз Лукашэнка абувае "лідэраў нацыі" ў лапці й сьмяецца зь іх, як было на "Дзень волі", калі ўлады ачапілі пляц Якуба Коласа. Так было і на "Чарнобыльскім шляху". Калі ўлады раптам дазволілі мерапрыемства. Здавалася б: рукі развязаныя. Але ніхто не спадзяваўся на такі расклад, таму ўсё скончылася традыцыйнай гаварыльняй. Лукашэнка ведае, што сабака, які брэша, не кусае. Таму гэтая гора-апазыцыя не зачэпіць яго і ня вызваліць Беларусь ад акупантаў з Усходу. Гэта мусяць зрабіць новыя людзі, якія самааддана, забыўшыся на асабістыя амбіцыі, служылі б Беларускай Нацыі. А ў выпадку патрэбы аддалі жыцьці за дабро і Волю Беларускага Народа. Таму на сучасным гістарычным этапе паўстае задача выхаваньня моладзі ў нацыянальным духу. Выхаваньне сьвядомых патрыётаў-нацыяналістаў, для якіх Беларуская Нацыя і яе інтарэсы зьяўляюцца сьвятымі. Гэтую вялікую справу абавязаны рабіць кожны беларус дый любы чалавек, які жадае працаваць дзеля пашырэньня сілы, славы, дабрабыту і прасторы Беларускай Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы, – дзяржавы Беларускага Народу, якая паўстане ў выніку НАШАЙ перамогі над заклятым ворагам – Маскоўскай імпэрыяй. Перамога прыйдзе, калі кожны беларус стане жаўнерам нацыянальнага адраджэньня, а Беларускі Народ – сьвятым Вызвольным Войскам.

*М. Маліноўскі.*

# ВЯРТАНЬНЕ ПАМЯЦІ

25 чэрвеня ў горадзе Ігумен (Чэрвень) традыцыйна адбываецца жалобная акцыя памяці расстраляных расейскімі бальшавікамі вязьняў Ігуменскай турмы – "Дарога Сьмерці". 26 чэрвеня 1941 г. палітычныя вязьні былі выведзеныя за горад і расстраляныя. На месцах расстрэлу ў апошнія гады былі ўсталяваныя помнікі і крыжы. Толькі ня ўладамі Беларусі, а летувісамі й палякамі, бо сярод растраляных былі этнічныя летувісы. Беларускія ўлады абмежаваліся сьціплай плітой у глыбіні лесу. Штогод прыязджаюць сюды на некалькіх аўтобусах летувісы й палякі. Адно беларусаў прыязджае паўаўтобуса, а мясцовыя ўлады наогул ігнаруюць акцыю памяці.

У гэтым годзе прадстаўнікі арганізацыі "Край" прынялі ўдзел ва ўшанаваньні памяці расстраляных палітвязьняў. Шэсьце адбывалася ад былой турмы (цяпер шпіталю) да месца расстрэлу. Нашчадкі Дзяржынскага вельмі жадалі, каб "Радзіма ведала сваіх герояў" і актыўна здымалі ўсё відэакамэрай. Прадстаўнікамі арганізацыі была праведзеная тлумачальная размова і відэаздымкі спыніліся. Але падканец акцыі, паклікаўшы на дапамогу мясцовую міліцыю, відэаамататары паспрабавалі здымаць ізноў, але гэта ў іх ізноў не атрымалася. Трэба было бачыць твары міліцыянтаў і супрацоўнікаў дзяржбясьпекі! Такога яны яшчэ ня бачылі і не чакалі. Паклікалі начальніка мясцовага РАУС, які бяз мату і блатной фені размаўляць ня ўмее (давялося выклікаць перакладчыка). Пасьля няўдалай спробы закруціць каму-небудзь рукі мясцовая міліцыя пабегла выклікаць АМАП зь Менску.


Краёўцы пад час акцыі ў м. Ігумен

Усклаўшы вянок да помніка, 20 краёўцаў зьніклі ў лесе гэтак жа непрыкметна, як і зьявіліся...

*"М"*

# ПАНЯВОЛЕНЫЯ НАРОДЫ СУПРАЦЬ ІМПЭРЫЯЎ

**З гэтага нумару рэдакцыя "Голасу Краю" пад рубрыкай "Вызвольны Фронт" пачынае зьмяшчаць артыкулы пра барацьбу паняволеных народаў сьвету. Мы, беларускія нацыяналісты, лічым, што кожны, нават самы малы, народ мае права на вольнае, самастойнае дзяржаўнае жыцьцё. Гэтае права даравана нам Богам, які стварыў усе народы на гэтай планеце. Мы выступаем за падзел сьвету на незалежныя дзяржавы, якія будуць абараняць інтарэсы карэнных этнасаў.**

**Сёньня ў сьвеце налічваецца каля 200 дзяржаў, а этнасаў у некалькі разоў болей, таму нацыяналісты салідарныя з тымі сіламі, што змагаюцца за свабоду сваіх народаў. Няма добрых ці дрэнных нацыяў. Кожны народ мае права жыць. Перакананыя, што справядлівы падзел сьвету на сувэрэнныя дзяржавы – гэта аснова міру й росквіту ўсяго чалавецтва.**

**Прапануем вашай увазе матар'ял пра барацьбу ўйгурскіх нацыяналістаў супраць кітайскіх імпэрыялістаў, дасланы нашым карэспандэнтам.**

"Ізаляваць. Вынішчыць, як пацукоў, загнаных у кут. Зьнішчыць, як паразітаў, што зьядаюць зерне на палетках". Такі загад кітайскія камуністы аддалі сваім вайскоўцам, якія праводзяць карную апэрацыю супраць вызвольнага руху ўйгураў ва Ўсходнім Туркестане (па-кітайску "Сіньцзян").

Адзін толькі позірк на мапу дае магчымасьць зразумець, чаму кітайцы так шмат часу і грошай аддаюць на сілы хуткага рэагаваньня, а таксама на выпрацоўку тактыкі вядзеньня баявых дзеяньняў у памежнай зоне. Рэгіён, дзе сутыкаюцца інтарэсы Пакістану, Аўганістану, Казахстану, Кіргізіі, Таджыкістану, Індыі, Расеі ды Кітаю, – адзін з самых неспакойных у сьвеце.

*Даведка.*
*Уйгуры – адзін з найстаражытнейшых цюркамоўных народаў Цэнтральнай Азіі. Першыя зьвесткі пра ўйгураў адносяцца да III стагоддзя н.э. Тады яны ў складзе гунскага саюзу плямёнаў дайшлі да Заходняй Эўропы. Але потым вярнуліся на радзіму, у стэпы, на тэрыторыю паміж Кітаем, Казахстанам і Манголіяй. У XVII – XVIII стагоддзях там існавала ісламская Ўйгурская дзяржава, якую ў 1760 г. захапіла кіраваўшая Кітаем маньчжурская дынастыя Цын.*
*Цяпер у Сіньцзяне жыве каля 10 млн. уйгураў. Большасьць зь іх размаўляе на роднай мове і спавядае іслам.*

*Чачэнскі сьлед уйгурскіх байцоў*
*У пачатку сакавіка 2000 г. у баях за чачэнскае сяло Камсамольскае былі ўзятыя ў палон два ўйгурскіх баевіка Сайдзі Айшан і Амірджан Амуці. Яны ваявалі ў атрадзе палявога камандзіра Руслана Гелаева. І ваявалі, здаецца, выдатна. Камсамольскае стала для расейскіх акупацыйных войскаў маленькім Сталінградам. Як бачым, змагарнае братэрства паняволеных народаў умацоўваецца. Колькі ляманту з гэтай нагоды было ў расейскай прэсе. Але хочацца спытаць, чаму імпэр-шавіністы могуць каардынаваць задушэньне вызвольных рухаў, а тыя, супраць каго скіравана гэтая "каардынацыя", не ? Дзе тая справядлівасьць і аб'ектыўнасьць*

У лютым 1997 г. у горадзе Інін (каля 50 км. ад мяжы з Казахстанам) пачалося паўстаньне, у выніку якога некалькі дзесяткаў чалавек загінулі і сотні людзей былі параненыя. Насуперак заявам афіцыйнага Пекіну пра "жменьку бандытаў і апазыцыянераў" (як сказалі б у Беларусі, "адмарозкаў") рокаш у Ініне стаў яскравым доказам вялікай

## Няма добрых ці дрэнных нацый. Кожны народ мае права жыць.

незадаволенасьці кіраваньнем Пекіна Сіньцзянем. Супраціў масава падтрымліваюць тутэйшыя жыхары. У ліпені таго ж году КПК абвясьціла праблему паўночна-заходняй ускраіны самай значнай пагрозай тэрытарыяльнай цэласьці і дзяржаўнасьці КНР.

Карані канфлікту шукацьмем у этнічным і канфэсійным пытаньнях. Справа ў тым, што большасьць жыхароў Усходняга Туркестану спавядаюць іслам. Акрамя таго, уйгуры – гэта народ цюркскай этнічнай групы. Вось таму Сіньцзян – гэта своеасаблівая Ічкерыя на кітайскі ўзор. А тут яшчэ побач Аўганістан, дзе ўжо не адно стагодзьдзе ідзе вайна. Адтуль, па вялікім рахунку, і пачаўся збройны супраціў. Яшчэ з пачатку 80 – х гг. мясцовыя патрыёты, прайшоўшы вайсковы вышкал у Пакістане, змагаліся на баку маджахедаў у сумна вядомай нам вайне. Натуральна, вызвольная барацьба аўганцаў стала тым зернем, якое прарасло ў багата ўгноенай ісламам глебе, і дала магутны штуршок да барацьбы.

Хросным бацькам вызвольнага руху стаў студэнт мэдрэсэ з Кашгару Західдзін Юсуф. Падпольная арганізацыя, якой ён кіраваў, запасала зброю, адпраўляла сваіх байцоў набірацца баявога досьведу ў Аўганістан. Цэнтрам арганізацыі стаў горад Барэн. "У барэнскай арганізацыі былі прыхільнікі па ўсяму Туркестану, - успамінае

Таргун, адзін з ейных лідараў. – Студэнты мэдрэсэ езьдзілі па гарадах Сіньцзяну і заклікалі да джыхаду. Большасьць, як і я, спрачалася, сьцвярджаючы, што час яшчэ не прыйшоў." Прыйшоў час ці не, але 5 красавіка 1990 г. Барэн усё ж такі "выбухнуў". Кропляй, якая перапоўніла кубак цярплівасьці, стаў рэйд міліцыі, якая шукала зброю. Незадавальненьне вылілася ў трохдзённае ўзброенае сутыкненьне з уладай. На ягонае падаўленьне былі кінутыя вайсковыя часткі. Паводле афіцыйных дадзеных, былі забітыя 122 чалавекі, у тым ліку сам Заxіддзін, а таксама некалькі дзясяткаў супрацоўнікаў сіл бясьпекі. Пацярпеўшы горкую паразу, паўстанцы падаліся ў горы, каб далей працягваць партызанскую барацьбу.

Упершыню з моманту захопу ўлады кітайскімі камуністамі ісламскі рух адкрыта выступіў супраць дзяржаўнай машыны Кітайскай Народнай Рэспублікі.

Падзеі ў Барэне сталі пачаткам нябачнай вайны. Нават праз два гады заціпша было вельмі хісткім. Кіраўнікі сіньцьзянскай дзяржбясьпекі лічылі, што з "партыяй ісламу" ўсё скончана, але гэта была вялікая памылка. 5 сьнежня 1992 г. у г.Урумчы (адміністацыйны цэнтар правінцыі) шэсьць чалавек загінулі ад выбуху бомбы ў аўтобусе. Урумчы – ханьскі горад. Ханьцы – гэта саманазоў этнічных кітайцаў, якія складаюць 92 % усіх жыхароў Кітаю. Гэты выбух быў першай ластаўкай. Потым пайшло-паехала. Увесну 1997 г. хваля ўйгурскага тэрору дакацілася да Пякіну.

Тыя, хто пачаў барацьбу за незалежнасьць у Барэне, рабіліся ўсё больш і больш дзёрзкімі, бо адчувалі гарачую падтрымку свайго паняволенага народу.

Вонкава ў гарадах усё спакойна. Але ў паветры адчуваецца напружанасьць. Большасьць людзей баіцца шчырай гутаркі, бо паўсюль агенты і інфарматары ўладаў. Аднак тых, хто вядзе ўзброеную барацьбу, гэта не спыняе. Паўстанцы змагаюцца, аддаючы перавагу дынаміту. Бо яго дастаткова, каб разарваць на кавалкі якога-небудзь кітайскамоўнага ды-джэя, ці простага ханьскага небараку, бацькі якога нейкага ляду прыпёрліся ў гэты край. Усё "таньней" становіцца жыцьцё тых уйгураў, якія нейкім чынам зьвязаныя з акупацыйнай адміністрацыяй. У траўні 1996 г. ледзьве не зарэзалі вярхоўнага імама мячэці Эйдга, якога зацьвердзіў на гэтую пасаду ўрад.

Усходні Туркестан быў заваяваны маньчжурамі ў 1757 – 1759 гадах. Пасьля гэтага ня раз успыхвалі крывавыя паўстаньні. Адно зь іх, якім кіраваў Юсуф Бек, прывяло да вызваленьня ад кітайцаў. Але вольнасьць цягнулася нядоўга (1865–1877 гг.). У 40-х гадах нашага стагодзьдзя пры падтрымцы СССР уйгурамі была створана сувэрэнная дзяржава – Рэспубліка Ўсходні Туркестан. У 1949 г. Сталін, кіруючыся палітычнымі мэтамі, аддаў рэспубліку Мао Цзэдуну. На гэтым скончылася кароткая гісторыя незалежнасьці ўйгураў. Пачаўся перыяд інтэнсіўнай "кітаізацыі". Калі ў 1950 г. колькасьць ханьцаў ледзьве дасягала 5 % насельніцтва Сіньцьзяна, то цяпер гэтая лічба вырасла да 40 % з агульнай 17-мільённай масы насельніцтва краю. Але ўйгуры ўпэўненыя, што колькасьць перасяленцаў з Кітаю ўжо пераўзышла 50% мяжу. Міграцыя значнай колькасьці ханьцаў выклікала сярод уйгураў заклапочанасьць адносна рэальнай магчымасьці асіміляцыі сярод кітайцаў.

Але змаганьне працягваецца. Найлепшым для кітайцаў варыянтам разгортваньня падзеяў ёсьць "паўночна-ірляндзкі сцэнар". Незатухаючая, але і нязначная тэрарыстычная дзейнасьць, якая прынесьці рэальнага вызваленьня ня можа. Уйгурскія партызаны імкнуцца сваімі дзеяньнямі палярызаваць этнічныя групы, што наўпрост вядзе да эскалацыі канфлікту. Такі "сцэнар" змусіць Пэкін да шырокамаштабнага выкарыстаньня ўсяе вайсковае моцы краіны. А чым скончыцца магчымая вайна, невядома нікому.

*Антон Грахоўскі.*



На вышкале.

# Праўда, як яна ёсьць.

Шмат гадоў таму, у выніку падзелаў Расея скарыла абезгалоўлены палякамі Беларускі Народ. Апалячаныя вярхі, страціўшы пачуцьцё вялікай радзімы, апынулася ў разгубленасьці. Замест абароны Айчыны шляхта (ваяры) пазачыняліся ў сваіх маёнтках. Дэградацыя нацыянальнай эліты працягваецца і пазьней, пасля далучэньня краіны да Расейскай імперыі. Тыя ж беларусы, хто ўсьвядоміў жахлівае становішча Айчыны, кінуліся ў полымя барацьбы за Волю, за Нацыянальную дзяржаву. Кожнае пакаленьне беларусаў уздымалася на паўстаньні, бунты супраць прыгнятальнікаў. Беларуская Нацыя працягвала нараджаць рыцараў, якія самаахвярна змагаліся за лепшую долю, за дзяржаўнасьць і незалежнасьць. Дзякуючы такім людзям, Беларусь жыла і выжыла. Дзякуючы ім, Беларусь Жыве і будзе жыць. Мы абавязаны тым з нас, хто пакідаючы свае клопаты, дбаюць пра святую народную справу. Іхнія ймёны мы павіны памятаць і шанаваць (К.Каліноўскі, В.Гадлеўскі). Гэта – правадыры Беларускай Нацыі, яркія прадстаўнікі яе нацыянальнай эліты.

Ступаючы на шлях барацьбы за Беларускую Нацыю, за яе інтарэсы, ты абіраеш адказны шлях служэньня сваёй Айчыне, свайму народу. На гэта здольныя ня ўсе, але лепшыя.

Ці ты ня **лепшы**?!

"В"

# РУСІФІКАЦЫЯ

«Исторически сложилось!» – такім чынам любяць падмацоўваць свае довады супраць дэрусыфікацыі некаторыя нашыя грамадзяне. Довад з аднаго боку падаецца адукаванаму чалавеку вельмі хісткім і няпэўным, а зь іншага – тоіць у сабе вялікую небясьпеку. Бо за гэтым выразам стаіць спроба падмяніць штучным працэсам натуральную ходу разьвіцьця Нацыі. Куды, маўляў ты са сваёю *моваю* папрэш супраць прыроды!

Але што азначае гэтае "гістарычнае складваньне"? Аднолькавыя культурна-нацыянальныя рысы маглі складацца ў даволі лякальных мясцовасьцях, абмежаваных клiматам, прыроднымі ўмовамі (рэкі, горы, ізаляваныя атокі). У старажытнасьці так узьнiклі культуры Эгіпту, Элады, Рыму. І тое, што гэтыя народы карысталіся сваімі мовамі, мелі свае рэлігіі, традыцыі, культуры – для іх гэта ўсё сапраўды так гістарычна склалася. Гэтыя Нацыі разьвіваліся натуральна. Аднак каму сёньня прыйдзе ў галаву абвясьціць натуральным працэс зьяўленьня тузіну гарадоў Александрыя на абшару ад Афрыкі да Індыі, ці аднолькавую архітэктуру храмаў ад Брытаніі да Малой Азіі? Гэтыя землі зьведалі на сабе ўладу імпэрыяў, і, адпаведна, экспансію нацыянальна-культурнага тыпу заваёўнікаў. Калі імпэрыі зьнікалі, напластаваньні чужое культуры змываліся зь цягам часу. Падобныя зьявы назіраліся на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва. Заставалася схэма, зьмяняліся толькі маштабы, шырыліся і ўдасканальваліся мэтады пазбаўленьня нацыянальнай самабытнасьці ды пераплаўкі ў бязьлікую масу вернападданых. Таму сёньняшнія енкі наконт агульнае этнічнае (рэлігійнае, культурнае) прасторы ад Курылаў да Бугу могуць выклікаць хіба горкую ўсьмешку. Агульнае на гэтай велізарнай тэрыторыі «исторически сложиться» натуральным шляхам аніяк не магло. Давайце паспрабуем гістарычна "разложить" нібыта спрадвечную "русскость" Беларусі, так бы мовіць, пабачым, адкуль растуць ногі рэфлексіўнага раўненьня беларусаў на «русский размер».

Возьмем адзін невялікі кавалачак крапатлівай працы русыфікатараў – тапаніміку, сродак просты і надзвычай надзейны: каму дасі імя, тым і валадарыш, казалі продкі.

Далёка ў часе хадзіць за прыкладамі ня будзем; моцная хваля перайменаваньняў абрынулася на Заходнюю Беларусь у часе 1939 – 41 гг. Быццам бы аб'яднаўся адзіны народ, вярталася сваё роднае, знаёмыя назовы, імёны й г.д. А ў выніку атрымалася крыху інакш…

Горад Берасьце ў першай палове 1939 г. жыхар II Рэчы Паспалітай мог без сумневу назваць «исконно» польскім горадам. У горадзе меліся вуліцы, якія пераканаўча пра тое сьведчылі: Баторего, Ягелонска-Замойская, 11 лістапада*, 3 мая, Пілсудзкага, Рэйманта**, Славацкага***, Сабескага****, Уніі Любельскай (Люблінскай). Жыхары гораду бесклапотна шпацыравалі па сваіх вуліцах, упэўненыя, што ўсё ў іхным месцы як мае быць і што так будзе заўжды, гісторыя скончыла свой бег, а тое што склалася, склалася правільна. Праз колькі месяцаў высьветлілася, што не зусім правільна. Аб'явіліся новыя гаспадары, якім тэрмінова трэба даказаць свае права на душы й розум местачкоўцаў, сфармаваць сьветапогляд, для якога б падыходзілі ўстаноўкі расейска-бальшавіцкага панаваньня. Па даўняй традыцыі, зьмена пачалася з наданьня новага гучаньня звыклым рэчам. Так, са 129 вуліцаў Берасьця каля 70 атрымалі новыя назвы, адпавядаючыя этна-ідэалягічнай сутнасьці ... не, не БССР, а хутчэй РСФСР. Трэба аддаць належнае аддзелам ГБ, што займаліся пераробкай Беларусі на расейскі капыл. Яны рабілі гэта тонка й густоўна, недакучлівымі хітрыкамі ўцягваючы людзей у поле іншае традыцыі. Па-першае, пакідаліся нэйтральныя назовы вуліцаў, аднак замест польскае транскрыпцыі ўжывалі расейскую (Броварова – Пивоваренная, Менсны заулэк – Мясной переулок, Полуднёва – Южная і г. д., усяго 54 са 129), па-другое, падбіраліся сэнсава падобныя назовы (каб чалавек не напружваў мазгі, чым ёсьць піянэры, а мог здагадацца, што гэта нешта падобнае на харцэраў, вуліца Харцэрская робіцца Пионерской, Легіёнаў – Красногвардейская, Уніі Любельскай – проспект 17 сентября), тое ж – зь імёнамі: пісьменьніка Крашэўскага***** – на пісьменьніка Л.Талстога, Рэйманта – на Тургенева, Сенкевіча – на Маякоўскага, Сабескага замяніў Ленін ("великий вождь"), Пілсудзкага (які даў свабоду) – проста на пл. Свабоды (а калі ў тваім горадзе ёсьць пл. Свабоды, ты ўжо нікому не давядзеш, што ты несвабодны). Былі й кур'ёзы: вуліцу К. Станевіча замянілі на вуліцу Стаханава (напэўна, каб хутчэй прывучыць местачкоўцаў выгаворваць моднае ў СССР прозьвішча).

Адразу заўважым, што ва ўзьяднаным зь Беларусяй горадзе так і не зьявілася ў той час ніводнай беларускай назвы вуліцы. Адшукалася месца Куйбышаву, Лермантаву, Будзёнаму, Чалюскіну (36 названыя па пэрсаналіях, якія да нашае краіны ня мелі ніякага дачыненьня. А вось Коласа, Купалу, няхай нават услаўляючага савецкія танкі М.Танка не ўшанавалі! Але і праўда, зразумець "братоў" можна – навошта гэтым беларусам беларускае, калі ў хуткім часе ім усё роўна належыць стаць намі – расейцамі. А пакуль замест Касьцюшкі й Траўгута няхай героямі мясцовага люду будуць М.Гогаль і К. Цэткін. Прапанаваць нам за героя ката Суворава наважыліся значна пазьней.

Вось так за няпоўныя два гады горад Берасьце набыў рысы тыповага расейскага Гарлему – зь бязвер'ем, п'янствам, мацюкамі й сьмярдзючым брудам пад вокнамі. Цяжка верыцца, што гэтая брыдота «исторически сложилась» у некалі славутым горадзе. Я часта назіраю, як ён імкнецца пазбавіцца навязанае яму жахлівае маскі. За 60 год яна моцна прыстала да твару, а адставаць ня хоча. Тыя, хто крычыць: тут усё рускае, тыя, хто зараз агучвае назвы вуліцаў майго гораду імёнамі салдатаў акупацыйнага атраду з Расеі, што кватаравоў і атабарыўся тут у 1939–41 гг. – хіба яны не імкнуцца намёртва, навечна схаваць сапраўдны твар нашага беларускага гораду?

***Дамініка Барзавец***

** 11 лістапада 1918 г. – абвяшчэньне незалежнасьці II Рэчы Паспалітай.*

*** Рэймант Уладзіслаў (1867–1925 гг.) – пісьменьнік.*

**** Славацкі Юліуш (1809 – 1849 гг.) – паэт-рамантык.*

***** Ян III Сабескі (1629 – 1696 гг.) – кароль РП з 1674 г., у 1683 г. абаронай Вены фактычна выратаваў Эўропу ад турэцкага нашэсьця.*

****** Крашэўскі Юзаф (1812 – 1884 гг.) – пісьменьнік-рэаліст.*

ТАК БЕЛАРУСЫ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ЗБОРНУЮ

Кастусь ТРАВЕНЬ

# ВОКЛІЧ

У гэтым вялікім кабінэце былі дзьве вялікія рэчы: пагоны і галава генэрал-лейтэнанта ФСБ Далмата Пятрова, які сядзеў ва ўтульным скураным крэсьле і гаварыў: стрымана, ёмка і насычана. Генэрал быў невысокага росту, нядаўна яму дадалі зорку, і ён ператварыўся ў генэрал-лейтэнанта, пасьля чаго неяк усох, здрабнеў, перарабіўся з каржакаватага здаравяка ў мізэрнага сухенькага дзядка ў форме зь непамерна вялікімі пагонамі. Магчыма, яго падсьвядомых жыцьцёвых сілаў не хапала на чын генэрал-лейтэнанта. Засталася вялікая галава, здольная ўспрымаць інфармацыю, перапрацоўваць яе і рабіць высновы, выключная памяць, працаздольнасьць і дагматычная вера ў ідэалы расейскай імпэрыі, што дазволіла яму зрабіцца адзіным уладальнікам вялікага кабінэта і ўтульнага крэсла.

Адсюль, з гэтага скуранога, цёплага крэсла генэрал-лейтэнант Далмат Пятроў распаўсюджваў пляны і энэргію барацьбы з ворагамі імпэрыі.

Сёньня ён сьвідраваў халоднымі, нават злоснымі вачыма палкоўніка ФСБ Фарыда Іванова, які сядзеў насупраць.

– Не давай ім падняцца, адчуць смак перамогі. Аніякага посьпеху яны не павінны дасягаць самастойна. Посьпех у іх сьвядомасьці павінен быць зьвязаны толькі зь дзейнасьцю Расеі. Таму ўсё таленавітае, здольнае, ініцыятыўнае, нацыянальнае бязьлітасна затаптвай у першую і другую чаргу.

На кіруючыя пасады ў культуры, спорце, тэлебачаньні вылучай ці мясцовых дагматаў, нядзараў, тупіц, ці расейскіх патрыётаў. Тамтэйшыя прыдуркі добра зацiраюць усе мясцовыя таленты і здольнасьці. Акрамя таго, на іх фоне расейцы будуць выглядаць выключна геніяльнымі работнікамі.

Генэрал Пятроў жорстка зірнуў на палкоўніка Іванова, быццам западозрыў у ім непатрэбную для агента ўплыву мяккасьць і жаласьлівасьць.

– Мы ледзь не празявалі Беларусь. У апошні момант пасьпелі пхнуць на кіруючае месца свайго чалавека. Але сытуацыя складаная, няпростая. Там



побач – Эўропа. Шмат хто, дыхнуўшы кіслароду ў Варшаве, Празе ды Парыжы, пачаў разумець сэнс жыцьця. Таму аніякай альтэрнатывы, аніякай Эўропы. Таленавітыя і здольныя павінны назаўсёды зразумець, што могуць нечага дасягнуць, зрабіць кар'еру толькі праз Маскву, у Маскве, дзякуючы Маскве, падтрымліваючы Маскву.

Генэрал прамаўчаў, адпіў глыток са шклянкі і працягваў:

– Клясычны агент уплыву павінен валодаць мовай, гісторыяй тэрыторыі, якую трэба падпарадкаваць. У нашым выпадку ніякай мовы, ніякай гісторыі. Іх гісторыя пачалася ў 17-м годзе, датуль яны ня мелі гісторыі.

Генэрал Пятроў нешта ўспомніў, спахмурнеў і некалькі хвілінаў разглядаў цьвёрды, валявы твар 37-гадовага палкоўніка Іванова.

– Нейкую ілюзію ім ствары, пакінь газэтку на іхнай мове. Але ўсіх здольных журналістаў перакупі ў расейскамоўныя выданьні. Непадкупных – бязьлітасна ламай. Галоўнае, задушыць веру ў сябе. Ня даць ім ніякага посьпеху. Калі хто нечага дасягне, – ані слова, маўчаць, абмежаваць фінансава. Ніякіх перамог. Ніякага сымбалю для аб'яднаньня.

На разьвітаньне генэрал-лейтэнант Далмат Пятроў памякчэў, паводле расейскага звычаю набулькаў палкоўніку Фарыду Іванову шклянку добрага армянскага каньяку за ўдалую дзейнасьць у Заходняй правінцыі імпэрыі.

– Дзейнічай, палкоўнік. Гэтая марыянетка доўга не пратрымаецца, трэба падшукаць новую фігуру на пост губэрнатара. Стварыць загадзя імідж. Працы шмат.

– А гэтага куды ?

–Гэты не прападзе, спрытны прайдзісьвет. Наклаў сабе ў швайцарскія ды аўстрыйскія банкі не адзін мільён.

Генэрал адпіў глыток, – патрымаем на пасадзе віцэ-прэм'ера, а потым піхнем расейскім паслом у Віетнам.

..........

У Менску нібы ўсё на сьвеце перамяшалася. Лета – быццам сумесь нязвыкла цёплай зімы і халоднай вясны. Было ціха, хранічна дыскамфортна, ураджай рос кепска, будучыня абяцала быць галоднай. Пачуцьцё чаканьня ўладарыла ў грамадзтве. Постсавецкі народ засынаў, праваліваўся ў стан анабіёзу.

У той дзень на менскім стадыёне "Дынама" сабралася ўсяго некалькі тысячаў заўзятараў. Пасьля першага тайму адборачнай гульні чэмпіяната сьвету зборная Расеі перамагала зборную Беларусі зь лікам 2:0. Заўзятары ў перапынку курылі цыгарэты, пілі піва, лускалі семкі, глядзелі невідушчымі вачыма перад сабою. Надзея на лепшае жыцьцё памірала доўга і пакутліва. Сёньняшняя параза ставіла ганебную кропку ў канцы дзейства, якое зьнішчала гонар, сумленьне і свабоду гэтых людзей. Іх, хто прысутнічаў на стадыёне, прымусілі згадзіцца з тым, што яны – натоўп, ад якога не залежыць нічога, нават вынікі футбольнага матча.

Заўзятары ў Кіеве і Львове, Палтаве і Віньніцы, Чаркасах і Запарожжы, па ўсёй вольнай Украіне, назіраючы ў тэлевізіі гэты ганебны матч, лаяліся памацернаму, абзываючы сваіх братоў сьвінаводамі і бульбаводамі. Зборная Ўкраіны пры перамозе расейцаў займала другое месца ў турніры і не трапляла ў фінал футбольнага першынства сьвету.

Вітаўт спазьніўся на першы тайм і прыйшоў на цэнтральную трыбуну, змрочна балянсуючы на мяжы чорнай злобы і адчаю. Ён заняў сваё месца, паглядзеў на таблё, на маладых




ЗАЎЗЯТАРЫ МЕНСКАГА" ДЫНАМА"

хлопцаў, што сядзелі побач. Міліцыянты ў бронекамізэльках, з гумовымі палкамі напагатове стаялі ў праходах, пільна ўзіраючыся ў шэрагі людзей, вышукваючы бел-чырвона-белыя сьцягі, каб зараз арыштаваць і сьцяг, і сьцяганосца. Пануючы рэжым ажыцьцяўляў пляны імпэрскай Расеі, душыў праявы этнічнай сьвядомасьці народа нават у спорце.

– Чаго так сумна? – Вітаўт зірнуў на маладых.

– Прайграем, – юнак побач пацягнуў з бляшанкі піва і невыразна паглядзеў на Вітаўта. У сініх вачах хлопца была відаць абыякавасьць, як спроба захаваньня душы ад адчаю.

– Вынік заплянаваны ў Маскве, што тут незразумелага? Яны ж ходзяць па полі, аніякай барацьбы, – павярнуўся да Вітаўта ладна зьбіты малады мужчына ў штурмоўцы, у вачах яго стаяла злосьць і роспач.

–Гэтая гульня – яшчэ адно пацьверджаньне паслухмянасьці беларусаў, нашай любові да "вялікага братэрскага расейскага народа". За гэта мы атрымаем газ, электраэнэргію, сыравіну ... яшчэ нешта, – апошнія словы мужчына вымавіў зь непрыхаваным раздражненьнем.

– А калі перайначыць гэты вынік? Парушыць пляны маскоўскіх стратэгаў? Зьмяніць ходу падзеяў? Га? – разважыў уголас Вітаўт.

– Думка цікавая, але як? – пахмурна адказаў мужчына сьпераду.

– Можа здымем штаны, абуем буцы, ды на поле? Га? – усьміхнуўся хлопец зьлева.

Вітаўт доўга маўчаў. Яны ўсе былі аб'яднаныя жаданьнем свабоды, пераможнасьці Радзімы. Ва ўяўленьні Вітаўта паўсталі героі мінуўшчыны.

– Хлопцы, успомнім старажытных вояроў, Давыда Гарадзенскага і яго гераічную барацьбу з тэўтонамі, вялікіх князёў Вітаўта і Міндоўга. Тых, хто загінуў пад Грунвальдам. Іх шлях да Грунвальда. Іх сумнеў, тугу, невядомасьць. А потым жорсткую сечу, калі трэба было цярпець, змагацца і гінуць дзеля Перамогі.

Вітаўт гаварыў марудна і ціха. Кожнае слова клалася, як камень у сьцяну абарончага збудаваньня. Ён змоўк і доўга, амаль хвіліну маўчаў, апусьціўшы сівую галаву долу.

Перамогі заўсёды патрабавалі магутных намаганьняў, – прашаптаў ён. – Слава Героям, – вымавіў ціха. – Слава Героям! – паўтарыў ён ізноў. Суседзі, маладыя хлопцы і мужчыны наперадзе са зьдзіўленьнем і інтарэсам паглядзелі на Вітаўта, яны нібы пачалі прачынацца.

На поле выбеглі футбалісты зборных Расеі і Беларусі.

Вітаўт разагнуў плечы, падняў літую глыбу стрыжанай сівой галавы, быццам неймаверны цяжар.

– Пагоня, – з намаганьнем ў адно слова прамовіў Вітаўт.

– Па-го-ня! – энэргічна, рашуча, цьвёрда, непахісна пачаў скандаваць ён. Ён выпраменьваў упэўненасьць, зь ім побач нябачна стаялі ваяры, што палеглі пад Грунвальдам 587 гадоў назад.

– Па-го-ня! Па-го-ня! – выгукваў ён упэўнена, рашуча, цьвёрда, з унутранай сілай. Моладзь навокал Вітаўта падхапіла вокліч.

– Па-го-ня! Па-го-ня! Па-го-ня! – вокліч панёсься па трыбунах стадыёну. Ужо скандавала некалькі соцень заўзятараў. Яшчэ некалькі імгненьняў, і ў адзіным пачуцьці, шчырым, адчайным жаданьні Перамогі ўсе, хто прысутнічаў на стадыёне, усталі. Як быццам сьвежы вецер з мора пранёсься над трыбунамі і ўварваўся на футбольнае поле.

.......

Палкоўнік ФСБ Фарыд Іваноў, накіраваны ў Менск для ўвасабленьня імпэрскіх плянаў Расеі, ажыцьцяўляў кантроль за ходам футбольнага матча зборных Расеі і Беларусі.

Утульна ўладкаваўшыся ў крэсьле на трэцім паверсе штаб-кватэры СНГ, палкоўнік назіраў ходу гульні ў тэлевізіі

і маленькімі глыткамі смакаваў каву. Зрэдку ён паглядаў на сакратарку-рэфэрэнта Аліну Бандарэвіч, прыгажуню зь непаўторнай паставай. Ад Аліны ішла такая моцная хваля флюідаў, што ў 37-гадовага палкоўніка ФСБ ад спакусы пацелі далоні.

- Як Вы думаеце, Фарыд Ахмедавіч, хто сёньня пераможа, вашы ці нашы? – Аліна зірнула на Іванова сваімі чароўнымі цёмна-сінімі вачыма.

– Бульбаводы няздатныя да перамог. Яны ўжо прайгралі ўсё, што можна было прайграць, на сотні гадоў наперад.

Палкоўнік выключыў гук у тэлевізары. З футболам усё ясна. Можна было пераходзіць да прыемнай падрыхтоўчай працы, зьвязанай з вэрбоўкай агента.

– Называй мяне проста Фарыд, – палкоўнік падышоў да Аліны, аблапаў позіркам увесь непаўторны зьбег славутай сынусоіды, стрымаўшы зьвярыны крык жаданьня, пасьля па-партыйнаму моцна, упэўнена ўзяў дзьвюма рукамі за сьцёгны і магутна – ня вырвацца і не паварушыцца – прытуліў да сябе.

– Фарыд Ахмедавіч, Вы што, з глузду зьехалі, – спалохана закрычала Аліна.

На другім паверсе будынку рэфэрэнт па міжнародных справах СНГ Арсен Гайдукоў, ён жа сакрэтны агент ФСБ, назіраючы ў маніторы разьвіцьцё падзеяў, уключыў запіс.

Між тым, на футбольным полі адбылося непрыкметнае здарэньне, на замену выйшаў паўабаронца Кастусь Канапелька. Ён выбег, падхоплены магутным жаданьнем тысяч людзей аказаць супраціў, змагацца і перамагчы.

– Па-го-ня, Па-го-ня, Па-го-ня, - стагнаў, енчыў, патрабаваў, пагражаў стадыён, і ў гэтым крыку-стогне яны, футбалісты зборнай Беларусі, чулі водгалас усіх тых няшчасьцяў, што выпалі на долю іхнага шматпакутнага народу. Сёньня, праз 11 гадоў пасьля Чарнобылю, сваякі гэтых людзей валіліся адзін за адным у магілу, пакідаючы безабароннымі сваіх дзяцей і жонак у адзіноце перад разрухай, беспрацоўем, голадам...

Кастусь праглынуў камяк, змахнуў сьлёзы. Капітан каманды Алесь Юркевіч падбег да яго, запытаў, – Што?

– Што, – адказаў Кастусь, – ня бачыш што! Трэба Перамога.

Алесь кіўнуў. У Алеся безнадзейна хворая жонка памірала ў шпіталі і яму ня трэба было шмат словаў.

Каманда Беларусі пачала гуляць зусім іншую гульню, настойлівую, тэхнічную, стваральную. На 61-й хвіліне матча Кастусь Канапелька ў падкаце забраў мяч у цэнтра абароны расейцаў Сяргея Мамедава і, набіраючы хуткасьць, памчаў наперад, на супрацьходзе праскочыў праз расейскую абарону, прайшоў крыху на край, на вугал штрафной, магутна паскорыўся і выкаціўся на брамніка расейцаў Руслана Бабаіджакава, які маланкай кінуўся ў ногі. Кастусь імгненна катануў мяч уздоўж пустой брамы, і Юрась Старавойтаў з асалодай увагнаў гол у сетку пустое брамы зборнай Расеі. Стадыён выбухнуў стогнам радасьці. Цыгарэты, бляшанкі зь півам, газэты і часопісы,– усё было імгненна кінута пад ногі.



– Па-го-ня! Па-го-ня! – у адзіным жаданьні тысячы галасоў заўзятараў прасілі працягу.

Пасьля хуткай імклівай перапасоўкі ў цэнтры поля, такой, што нават у заўзятараў закружылася ў галаве, Кастусь Канапелька атрымаў мяч, паскорыўся, адарваўся ад абаронцаў на нейкія сантымэтры і магутна стрэліў па браме нізам. Бабіджакаў тыграм кінуўся ў кут, адбіў мяч перад сабою і цэнтральны нападнік беларусаў Алесь Юркевіч ластаўкай выскачыў з натоўпу футбалістаў і галавой загнаў мяч пад бэльку. Лік стаў 2:2.

– Па-го-ня! Па-го-ня! Па-го-ня! – скандаваў народ. Здавалася, што побач моцна грымеў гром... Ціхі, шэры дзень некуды зьнік, на замену яму прыйшоў суровы, непрадказальны, трывожны час. Час дзеяньня і барацьбы. Міліцыянты разгублена бегалі па трыбунах, ня ведаючы, што рабіць. Тэлекаментатары, як попкі паўтаралі, што пры ліку 2:2 зборная Расеі ўсё адно абыходзіць зборную Ўкраіны паводле лепшай розьніцы мячоў і займае першае месца ў турніры.

Генэрал-лейтэнант Далмат Пятроў з Масквы па вяртушцы шукаў палкоўніка Фарыда Іванова, які ў гэты час вёў актыўную барацьбу за штонікі Аліны, якія ўсё ніяк не здымаліся.

Рэфэрэнт СНГ Арсен Гайдукоў, ён жа агент ФСБ у Менску, паглядаў на тэлеманіторы за няўдалымі патугамі Фарыда і задаволена пасьмейваўся ў а-ля прэзыдэнцкія вусы.

– Па-го-ня! Па-го-ня! Па-го-ня! – стадыён грозна патрабаваў Перамогі.

Расейская зборная рванулася ўперад, але каманда Кастуся Канапелькі гуляла на роўных. Яны ўжо паверылі ў сябе. Гэтая роўнасьць беларусаў, іх халодна-жорсткая прагматычная гульня вымушала расейцаў злаваць, бо роўнасьць учорашніх аўтсайдэраў абражала іхную годнасьць, стварала псыхалягічны дыскамфорт. Супраць іх гуляла тэхнічная, жорсткая, злосная непахісна-валявая каманда, якая ведала нешта, чаго ня ведалі расейцы. На вачох заўзятараў адбываўся дзіўны пералом – нараджэньне каманды пераможцаў.

.....

Палкоўнік ФСБ Фарыд Іваноў ператўзбудзіўся. Ягонаму целу патрэбная была гэтая ашаламляльная пастава, маладосьць і шчырасьць гэтай жанчыны, яе тэмпэрамэнт, яе энэргічныя рухі насустрач.

Ён каротка і рэзка, без замаху ўдарыў далоняю па шчацэ Аліны, каб аглушыць яе, выклікаць шок. Потым, схапіўшы за кофтачку, белую з гальштукам і гузікамі, зь сілай рвануў яе ў розныя бакі, так што гузікі кулямі заляскаталі па кабінэце. Дзівосныя, рэдкай прыгажосьці грудзі жанчыны паўсталі перад вачыма Фарыда. Палкоўнік загырчаў па-тыгрынаму жорстка, бязьлітасна. Зараз ён кінецца, разарве гэтыя прыгожыя штонікі і растопча жыцьцё прыгажуні. Але ў гэты момант недзе блізка, так пагрозна і моцна грымнула, нібы лёгкі землятрус прайшоў па пакоі. Захісталіся люстры, зазьвінелі шыбы ў вокнах. Амаль поўны стадыён заўзятараў – за паўгадзіны туды набегла тысяч трыццаць пяць народу – стоячы вітаў трэці гол зборнай Беларусі, які забіў Кастусь Канапелька.

Ад такой жудаснай несправядлівасьці расейская зборная аслупянела і за хвіліну да канца гульні атрымала чацьвёрты гол у сваю браму.

***Працяг на старонцы 11***

Палкоўнік ФСБ Фарыд Іваноў, кінуўшы Аліну і пазіраючы ў экран тэлевізара, ліхаманкава даваў каманду праз радыё: я – Калуга, я – Калуга, Енісей, Ангара, Волга, Астрахань, Саратаў, Вологда, дзейнічаць па пляне нумар тры ... – Плян нумар тры прадугледжваў шырокамаштабную правакацыю.

У гэты момант рэфэры матча, судзьдзя міжнароднай катэгорыі з Латвіі падняў руку ўгору. 4:2 на карысьць зборнай Беларусі. Каманда Украіны выйшла ў фінал чэмпіянату сьвету.

На стадыёне заўзятары грымелі дзесяткамі тысяч галасоў: Слава Героям! Слава Героям! Слава Героям!

Алесь Юркевіч – капітан каманды, плакаў, не саромеючыся, у цэнтры поля і выціраў сьлёзы дзьвюма рукамі. Уся каманда абступіла яго, віншавала з двума галамі, а ён заліваўся сьлязьмі на вачах усёй Эўропы. Ён плакаў аб сваім прапалым жыцьці, аб любімай жанчыне, што пакутліва памірала ў шпіталі, аб першай Перамозе зь вялікай літары.

У Кіеве, на Хрышчаціку дзесяткі тысяч кіяўлян скандавалі «Жыве Беларусь!» Усё мужчынскае насельніцтва Украіны выйшла на вуліцы і сьвяткавала Перамогу зборнай Беларусі.

Генэрал ФСБ, атрымаўшы праз сакрэтны канал тэлезапіс, з шалёнай злосьцю назіраў за патугамі палкоўніка Фарыда Іванова.

Савет Бясьпекі Беларусі ў поўным складзе сабраўся ў прэзыдэнцкім палацы і чакаў самога прэзыдэнта, які вёў перамовы з Масквой пра накіраваньне ў Менск частак Пскоўскай і Разанскай дывізіяў парашутна-дэсантных войскаў.

Праз гадзіну палкоўнік ФСБ Фарыд Іваноў панура сядаў у машыну, каб ехаць на аэрадром, на тэрміновы выклік з Масквы. Запруць у Хакасію на 10 гадоў, з жахам думаў Фарыд. Глухі страх перад дзікай, азіяцкай Сібір'ю мядзьведзем варочаўся ў ягонай душы. Праспэкт Скарыны, запоўнены натоўпамі людзей зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, сьмяяўся, сьпяваў, сьвяткаваў сваю Перамогу. "Вольва" марудна рухалася па праспэкце, над пярэднім крылом трапятаў дзяржаўны сьцяжок Расеі. Аднекуль з натоўпу вылецела нешта бліскучае і ўрэзалася ў лабавое браняванае шкло самахода, заліўшы фарбай палову паверхні.

– Прыехалі, – кіровец уключыў дворнікі, якія размазалі фарбу па ўсім шкле, і адразу выключыў іх, зразумеўшы сваю памылку.

– Трэба зьняць сьцяжок, а то тут нас і пахаваюць, – прамырмытаў Фарыд Іваноў.

Дывізіі ПДВ Расеі ўпаўзалі ў чорныя пашчы грузавых летакоў.

Войскі NATO, паднятыя па трывозе на ўсім Эўрапейскім кантыненце, прыводзіліся ў баявую гатоўнасьць.

Гісторыя, нібы прачнуўшыся, хутка імкнулася наперад.

Генэрал-лейтэнант ФСБ Далмат Пятроў, седзячы ў сваім маскоўскім кабінэце, у цёплым скураным крэсьле, стомлена заплюшчыў вочы. Нягледзячы на поўны крах місіі Фарыда Іванова, ён са зьдзіўленьнем адчуў у глыбіні душы задаволенасьць. Здаравяк Фарыд усё ж ня здолеў абламаць беларускую прыгажуню, і гэта было прыемна старому імпатэнту Далмату Пятрову. Не сьпяшаючыся, ён смакаваў усе падрабязнасьці гэтай чужой жыцьцёвай паразы... Няўдача Фарыда спадабаецца ўсім вышэйшым кіраўнікам ФСБ, прэм'ер-міністру, і, магчыма, самому Прэзыдэнту.

Дзядок задаволена цмокнуў вуснамі, быццам абсмактваў смажанага ў сьмятане карася.

...Параза ў Беларусі, а яна чакалася даўно, была стратэгічна абумоўленая, і ўсе лёгка і задаволена сьпіхнуць яе на Фарыда Іванова і на яго, генэрал-лейтэнанта Далмата Пятрова.

Генэрал задрамаў. Яму сьніўся луг і ён, малады афіцэр КГБ, як жарабок, імчыць па зялёнай траве, хутка наганяючы Аліну Бандарэвіч, якая ўцякае ад яго і спалохана азіраецца. Зараз ён схопіць яе, паваліць у траву, пачне здымаць розныя жаночыя штукі, дабярэцца да яе і пакажа, што значыць сапраўдны расейскі мужык.

Дзядок-генэрал сапеў, пускаючы сьліні, і сьніў, сьніў, сьніў тое, чаго так моцна хацеў, жадаў, пра што марыў ...

І разам з генэралам спала і марыла ў сьне пра сваю вялікасьць уся неабсяжная Расея, гісторыя якой нетаропка рухалася па вытаптаным стагодзьдзямі коле.

"Наша Ніва", №23-24 (88), 30 чэрвеня

# МЫ САМІ

Аналізуючы сёньняшняе становішча, прыходзіш да высновы, што толькі Нацыянальная Ідэя – адзіная ідэя, якая можа вывесьці Беларусь з цяжкага крызісу, у якім яна зараз знаходзіцца. Карэнная Нацыя ператварылася ў нацыянальную меншасьць. Дзесяць гадоў незалежнасьці прывялі да таго, што ад беларускага народа ўжо нічога не залежыць. Змаганьне з лукашысцкім рэжымам ператварылася ў сезонныя акцыі (вясна – восень). Дыктатар усталяваў свае ўласныя правілы барацьбы, якія яго задавальняюць. Ён лічыць, што перамога ў яго руках. Але акупанты памыляюцца.

Відавочна, зьявіліся сілы, якія не будуць гуляць па іх правілах. Сілы, якія будуць змагацца да апошняга подыху, бяз выходных і сьвятаў. Змагацца не за мандаты і партфелі, не за грошы і пасады, а за сваю Нацыю і Дзяржаву. Нацыяналістам нельга быць пяць дзён на тыдзень з дзевяці раніцы да пяці вечара. Мы працуем круглы год без перапынкаў.

Толькі сваімі сіламі мы можам перамагчы навалу, якая апанавала нашую




дзядзьку, на эўрапейскую ці сусьветную грамадзкасьць зьяўляюцца марнымі, і да таго ж, шкоднымі. У нашага народа хочуць выпрацаваць комплекс непаўнавартасьці. Дык вось ня выйдзе. Сваёй барацьбой і працай беларускія нацыяналісты даказалі, што здольныя перамагчы расейскіх акупантаў. Бо змагаемся мы не супраць кагосьці, а за Беларусь. І нас ніхто і ніштo ня спыніць. Бог даў кожнаму народу сваю зямлю, свабоду і мову. І так будзе, пакуль існуе сьвет.

Рэжым трымаецца на людзкім страху і непрафесіяналізму змагароў. Зразумела, што сістэме можа супрацьстаяць толькі сістэма, пабудаваная на Нацыянальнай Ідэі. Гаворка ідзе не пра перамогу на чарговых парляманцкіх выбарах, а пра сыстэмную барацьбу за існаваньне беларускага народу. Арыентуемся толькі на свае ўласныя сілы. Бо наш народ у стане пазбавіцца ад любой хваробы, як бы яна не звалася (фашызм, камунізм, лукашызм).

Усё залежыць толькі ад нас.





**Беларусы сьпіваюцца. Каму гэта карысна?**

# П'ЯНАЯ ВЁСКА

Ніхто і не заўважыў, як памерла Іваніха. П'яная кампанія шумела і гудзела, калі ў хату надвячоркам прыбеглі дзьве маленькія дзяўчынкі і, плачучы, пачалі клікаць бабулю дамоў. Старая была ўдзельніцай усіх вясковых падзей – вясельлі, пахаваньні, дні нараджэньня ніколі не абыходзіліся без Іваніхі. Чатыры яе дачкі выйшлі замуж і з'ехалі ў горад. Пятая жыла з маці ў вялізнай хаце, якую некалі пабудаваў Іван для сваёй сям'і. Даўно памёр ужо гаспадар, а дыхтоўная і прыгожая хаціна ад часу пацямнела і неяк скасабочылася. Яе б адрамантаваць ды пафарбаваць. Толькі каму гэтым займацца? Старэйшыя дочкі з зяцямі рэдка прыязджаюць да маці, малодшая, як і маці, – п'яніца. Аднойчы, калі ў кішэні было пуста, а выпіць вельмі хацелася, яна ўкрала на вакзале сумку й трапіла ў турму. Яе дзьвюх маленькіх дачок, якіх нарадзіла без мужа, гадавала бабуля. Хаця якое там гадавала? У хаце часта нават скарынкі хлеба не было. Іваніха, здаралася, магла сысьці на дзень і два, і тады малыя бегалі па вёсцы і шукалі яе, а знайшоўшы, цягнулі дадому. Маленькія сьветлагаловыя дзяўчынкі, я ніколі ня бачыла, каб яны сьмяяліся.

Мая вёска Загор'е – самая звычайная, ня лепшая і ня горшая за іншыя. Ёсьць магазін, пачатковая школа, нават клюб. У двух кроках хады ад яе – вялікі малочнатаварны комплекс. Некалі шматлюдная, яна патроху старэе: у мінулым годзе зачынілі школу, бо не было дзяцей, а клюб, у якім раней віравала жыцьцё, загадчыца адчыняе толькі раз на тыдзень, калі праводзіць дыскатэку. Старэюць і паміраюць жыхары нашай вёскі. Іх дзеці, якія даўно перабраліся ў гарады, прыстасоўваюць бацькоўскія хаты пад дачы або наогул прадаюць чужым людзям. І тады сярод драўляных паступова пачынае вырастаць цагляная будыніна – дачнікі будуюць з размахам, зямлі ж хапае. Вось так і суседнічаюць – палова сваіх, вясковых, палова – прыезджых, якія ўспрымаюць нашу вёску як своеасаблівы дачны пасёлак, дзе ўсё павінна быць падпарадкавана іх інтарэсам і дзе вясковае жыцьцё і шматгадовыя традыцыі бачацца ім як нейкая экзотыка.

> Аб якіх маральных прынцыпах, якіх унутраных стрымліваючых рычагах можна гаварыць, калі вяскоўцы співаюцца проста на вачах!

Прывітаньне! – да мяне ў двор заглядае немаладая ўжо суседка. Шчокі ў яе падазрона чырвоныя, вочы блішчаць. Гэта – Зінка, як клічуць яе па вясковаму, хаця той пад пяцьдзесят. Яна нападпітку, накіроўваецца на ферму, дзе працуе даяркай, а яе муж, Мікалай, даглядчыкам. Некалі Зінка нават была адной з лепшых даярак у раёне, працаваць умела і любіла. Але апошнія гады больш бачу яе і яе Мікалая паўп'янымі, з іх хаты часта даносяцца песьні, а то і лаянка – у залежнасьці ад ступені ап'яненьня. І муж, і жонка гуляць любяць з размахам. Пасьля палучкі сьпіртное ў хаце не пераводзіцца, сабутэльнікі таксама.

У Зінкі – характар няпросты, да двух з ёю не гавары, асабліва калі з перапою, і маладзенькая загадчыца фермы добра гэта ведае.

– Зінаіда Мацееўна, – зьвяртаецца яна да яе пачціва, – учора я вашу групу кароў сама падаіла, заўтра раніцай абавязкова прыходзьце на ферму …

– Добра, прыйду,– згладжаецца Зінка. – І што б вы без мяне рабілі?

І сапраўды, што? Ведаю, загадчыца фермы, калі б яе воля, даўно б выгнала п'янчужку з работы. А далей? Хто пойдзе працаваць на ферму? Кім яе заменіш? Тым больш, што яна не адна такая. Некалькі даярак, як і Зінка, любяць "пагуляць". І тады загадчыца сама доіць іх групу кароў або бяжыць на паклон да зусім ужо нямоглых пенсіянерак, якія ў свой час былі даяркамі і проста не разумеюць, як гэта можна наогул не прыйсьці на дойку …

– Ну, даруй, учора пагулялі, крыху выпілі, – апраўдваецца Зінка, калі раніцой сустракаемся зь ёю ля калодзежа. Душа гарыць, патрабуе…

Ды Бог зь ёй! Не малая, сама няхай вырашае, як жыць. Толькі вось яе дзеці – на іх проста балюча глядзець. У Зінкі з Мікалаем іх пяцёра. Самая старэйшая, Валя, выйшла замуж і жыве ў суседняй вёсцы. Астатнія... Наташа нарадзілася з парокам сэрца. Каця яшчэ маленькай з-за недагляду п'янай маці звалілася з печы і назаўсёды засталася калекай.

печы і назаўсёды засталася калекай. Адзіны сын Валодзька ў агульнаадукацыйнай школе адолеў толькі два класы. І апошняя Волька, дзіця п'янага каханьня, нарадзілася са значнымі адхіленьнямі ў псіхіцы. Ды хіба Зінка са сваім Мікалаем адзіныя такія ў нашай вёсцы?

У думках крочу з адной хаты ў другую – вось у гэтай гаспадар спіўся, жонка памерла, двух сыноў забралі ў школу-інтэрнат. А тут жыве маладая яшчэ сям'я – трое маленькіх дзяцей. Галодныя, халодныя, яны ніколі не паелі ў волю. Апранаюць тое, што аддаюць ім спагадлівыя дачнікі. Як толькі ў іхных бацькоў заводзіцца якая капейчына, тыя адразу нясуць яе ў краму. Потым – гулянка, якая, як правіла, заканчваецца сваркай або бойкай. І тады старэйшы хлопчык забірае сястрычак і яны бягуць на другі канец вёскі да бабулі... А вось у гэтай хаце наогул адбылася трагедыя. П'яны сын патрабаваў грошай на выпіўку ў бацькоў-пенсіянераў, грошай не было, і ён збіў старых так, што маці памерла, а бацьку з цяжкімі пабоямі забралі ў бальніцу. Калі працьверазіўся, сын павесіўся. Можа, ня трэба ісьці далей, можа, трэба спыніцца...

Нашая сельская крама не адстае ад сталічнай – паліцы застаўлены бутэлькамі з рознымі этыкеткамі – хочаш, айчынную гарэлку купляй, хочаш, - замежную. Не хапае грошай – ідзі да вясковых "бізнэсмэнаў". Цяпер вытворчасьцю самагонкі ў нас займаюцца маладыя мужчыны, маючы з гэтага вялікія прыбыткі. Да іх можна прыйсьці ў любы час сутак і атрымаць запаветную бутэльку самагонкі. Няма грошай – дадуць напавер. І гоняць, і прадаюць не хаваючыся, нікога не баючыся. Ні міліцыі, ні сельскай радзе, ні праўленьню калгаса няма да іх ніякай справы – цяпер жа дэмакратыя і ўласны бізнэс трэба паважаць... Ну, а што гэтыя "бізнэсмэны" спойваюць вёску, сіроцяць дзяцей – да гэтага быццам бы і справы нікому няма.

Нашы вяскоўцы наогул да грошай вельмі абыякавыя – раней, да вайны, і доўгі час пасьля вайны працавалі, лічы, задарма. Сёньня таксама – і па два, і па тры месяцы не атрымліваюць зарплаты. Натуральная гаспадарка сяк-так дазваляе жыць. Ну, а на сьпіртное? За любую дапамогу адзінокім бабулькам або дачнікам мужчыны грошай не бяруць – патрабуюць расплачвацца бутэлькамі. Прэйскурант паслуг устойлівы і вядомы кожнаму. Бутэлькі, бутэлькі, бутэлькі ... І бачу ўжо, як па вуліцы, кідаючыся з боку на бок, паўзе трактар з п'яным трактарыстам, як ліха нясуцца па гравійцы грузавікі – барані Божа, не сеступіш у бок. Бачу, як па-заліхвацку скача на кані наш вясковы каўбой – гэта пастух Рыгор гоніць кароў з пашы і тыя, спужаныя, ашалелыя, галопам нясуцца па дарозе. Бачу, як, хістаючыся, ідуць дадому музыкі "са службы", і ўяўляю сабе, якая бацькоўская "цеплыня" і "пяшчота" чакае іхных дзяцей дома. Хто будзе спрачацца з тым, што раней маральнасьць у вёсцы была намнога вышэй, чым у горадзе? Асноўныя хрысьціянскія запаветы для вяскоўцаў былі сьвятыя. Не ўкрадзі – ды хто калі ў вёсцы зачыняў дзьверы на замок – так, чыста сымбалічна прычынялі на зашчэпку, каб бачылі, што дома нікога няма. А цяпер – на два замкі, і ня толькі ад чужых, але і ад сваіх, аднавяскоўцаў. Хто калі ў вёсцы мог падняць руку на састарэлых бацькоў? Цяпер могуць забіць з-за некалькіх грашовых паперак. Раней у вёсцы нараджэньне пазашлюбнага дзіцяці лічылася грахом – цяпер і ў гэтым вёска нават пераўзышла горад. А колькі п'яніц-вяскоўцаў пазбавілі бацькоўскіх правоў і дзяцей перадалі на ўтрыманьне дзяржавы, але і гэта наўрад ці каго ўзрушвае: прывыклі.Ездзіла да бацькоў на Віцебшчыну знаёмая, вярнулася, апавядае. Слухаю і не разумею – ці то пра сваю вёсачку яна гаворыць, ці то пра маё Загор'е, у якім ніколі не была. П'яныя з раніцы мужчыны і жанчыны, галодныя дзеці.



Гэта чалавек? Гэта беларус?

У якія дзьверы стукацца, каб дапамаглі спыніць гэтую дэградацыю, каб знайшлі нейкія спосабы працьверазіць нашы вёскі? Ня ведаю. Толькі наўрад ці цяпер нават адміністрацыйнымі мерамі можна штонебудзь зьмяніць. Хіба зьвярнуцца да саміх людзей, паспрабаваць дастукацца да іх сумленьня: мы ж жывем на зямлі дзеля нашых дзяцей і ўнукаў. А што бачаць яны? Скалечаныя алкаголем душы, скалечаную абыякавасьцю зямлю. Ці ня надта высокая плата за хвіліны п'янай весялосьці? Ды і самі аматары выпіць – хіба яны прыйшлі ў гэты сьвет дзеля таго, каб валяцца пад плотам

*С.Якаўлева*

Беларускі Дайджест" №6(54) 1998г.

# НАЦЫЯ ПЕРАД ВЫБАРАМ

*Працяг са с. 2*

У кожным пакаленьні беларусаў узрасталі тыя рыцары-рэвалюцыянэры, якія баранілі інтарэсы цэлай нацыі, ахвяруючы асабістымі. Імёны нашых вялікіх правадыроў, якія ўздымалі народныя масы на паўстаньні супраць акупантаў назаўсёды застануцца ў нашай памяці. Касьцюшка, Ясінскі, Каліноўскі, Булак-Булаховіч.....Самаахвярным служэньнем Беларускай Нацыі яны здабылі сабе вечнае жыцьцё. Іх велічныя постаці асьвятляюць сёньня наш шлях у будучыню.

А што мы? А што сёньня перашкаджае нам скінуць векавое ярмо акупацыі і пабудаваць Новую Беларусь? Сібірскія руднікі, шыбеніцы? Маскоўскі карны апарат зусім ня той што раней, таму што трымаецца толькі на грошах і панічным страхе перад ім. Бывалыя ГБшнікі ведаюць, што ідэйны чалавек здольны забіць у сабе страх. А чалавек пазбаўлены жывёльнага страха ўяўляе для іх небясьпеку, таму што ім немагчыма кіраваць звычнымі метадамі(запалохваньні, пагрозы, шантаж). Да таго ж пераважная большасьць супрацоўнікаў "органаў", якія клапоцяцца пра сваю будучыню і будучыню сваіх дзяцей, аналізуюць складваючую сытуацыю і прыходзяць да непазьбежнай высновы аб небходнасьці татальных зьменаў у дзяржаўным уладкаваньні Беларусі. Сёньня відавочна, што марыянеткавае прамаскоўскае ўтварэньне пад назвай "РБ" ня ёсьць дзяржавай і яму наканавана зьнікнуць, як зьнікае ўсё штучнае. Супрацоўнікі Дзяржбясьпекі, МВД і іншых службаў у такім выпадку зьяўляюцца выканаўцамі маскоўскага плана канчатковай акупацыі нашай краіны і маўклівымі сьведкамі кананьня сваёй нацыі. Ад адкрытага сабатаваньня антынацыянальных і антыдзяржаўных пастаноў і загадаў в.а. ППРБ сумленных Афіцэраў утрымлівае факт адсутнасьці палітычнай эліты і страх перад рэпрэсіямі. І ўсё ж свой выбар прыйдзецца зрабіць кожнаму.

*Я.Садоўскі М.Маліноўскі*

# РЭПАРТАЖЫ ПАРТЫЗАНСКІХ БАЁЎ

***"ГК" працягвае друкаваць матэрыялы, прысьвечаныя антыбальшавіцкай барацьбе беларускіх нацыяналістаў у 1940-50-я гады. У гэтым нумары мы зьмяшчаем успаміны партызана і сьведкі партызанскай барацьбы на Беларусі. Успаміны беларускага партызана, які схаваўся пад псеўдай "Лесавік", былі напісаныя ў далёкім 1952 годзе й маюць загаловак "Сучасныя лягенды Палесься" (падзагаловак — "Рэпартажы партызанскіх баёў").***



Слава Беларускім партызанам!

## Аблога прарваная

Усё жывое, усё, што дыхала на нашым маленькім востраве балотаў роднага Палесься — мусела загінуць. Трэцяга лютага, на сьвітаньні, кончылася колькітыднёвая грозная цішыня бальшавіцкае аблогі. Густы артылерыйскі агонь засыпаў усю нашую абтоку гранатамі ды зьмяшаў у вадно сьнег, умерзлую зямлю, кускі лёду і лес. За пару гадзінаў наш абток пакрыўся соткаю ямаў ад снарадаў і бомбаў з пяці варожых самалётаў, што ўвесь час кружылі над нашымі галовамі. На скраі балотаў стаяць гатовыя да руху 13 танкаў. Бой за жыцьцё пачаўся.

Праз грукат выбухаў ды стрэлаў чуецца голас Язэпа Т.: "Трымайцеся, браты. Дагэтуль мы ўсюдых перамагалі. Пераможам і цяпер!". І наш груповы адказывае за нас усіх: "Мы вытрымаем і Беларусь будзе жыць". Так, будзе жыць. Максім Ш., наш мужны кулямётнік нязьлічоных боек і адначасна паэта, ужо бача візыю будучыні: "Вінтоўкі нашае групы ўзьняліся для салюту вольнаму беларускаму народу!".

Жудасны бальшавіцкі напад. Аднак мацнейшыя за бальшавіцкія палкіі нязьлічоную колькасьць амуніцыі воля да жыцьця і перамогі беларускіх партызанаў. Супраць нашае не асабліва вялікае лікам групы бальшавікі за чатыры тыдні аблогі сьцягнулі некалькі палкоў войска, тры батарэі гарматаў ды 20 танкаў.

Але партызаны трымаліся. З фанатычнай верай трымаліся яны нават тады, калі выглядала, што ўсё было згублена. Гэта больш чым дзіўна, як Усевалад К. вырваў з рук ворага амаль пэўную перамогу.

Паўшы сьмерцяю адважных камандзір Іван Р. з адзінаццацьцю сябрамі два дні трымаў сваю пазыцыю. Чатыры разы паранены Максім Ш. ляжыць на сваім месцы і ні боль, ні небясьпека ня выціскаюць з ягоных губ нічога, апрача: "Біцца, біцца да апошняга!"

Траплены ў руку і грудзі груповы Андрэй Р., якому гады і партызанка ўкінулі ўжо серабро ў валасы, ляжыць на насілках і нясупынна падае каманду сваёй групе. Мікола В., групка якога высунатая на перадавы рог абтоку і адрэзаная ад нас, сам цяжка ранены вядзе сваю групку ў атаку і бальшавіцкія гады разьбягаюцца перад імі. І Сяргей І. з пяцьцю сябрамі, адрэзаны ад нас соткаю бальшавікоў, нападае сам і бяз ніякіх стратаў прабіваецца да нас. Кажны з нас ведае, што мусіць змагацца да апошняга. Таму ўсім зразумелы быў загад камандзіра: "Загадваю: прарваць аблогу ў паўдзённым кірунку і адыходзіць на новыя становішчы пад сяло У."

Мы адыходзім і маем з сабою нават дзесяток палонных. Дарэмна сталінцы кінулі дзеля нашага зьнішчэньня мільённай вартасьці амуніцыю, дарэмныя былі іхныя страты людзьмі. Мы адыйшлі ў поўным парадку і змагаемся далей.

## Трывога на балоце

Дзеля бясьпекі нашых "хутароў" сярод балотных імшараў Г., пару кілёмэтраў ад балота, у пералеску, уладжаная абсэрвацыйная пазыцыя партызанскай чацьверкі. Яна прадбачаная на выпадак, калі-б бальшавікі задумалі напасьці на нас з заду.

Крыху далей падгатаваныя добра замаскаваныя галінамі і мохам пазыцыі на выпадак бойкі. Цяпер яны пустыя ціха на ўскраі балота. Партызаны і зброя будуць там тады, калі пакажыцца вораг.

Раптам трывога! Зацята сьціскаючы вінтоўкі бягуць сябры праз балотныя вокны скачачы з купіны на купіну. Над пералескам узьвіваецца зялёная ракета — сыгнал падазронага руху бальшавіцкага войска на шасэ.

Батальён дзеліцца на групы. Сябры сьпяшаюцца, каб заняць свае постані на падрыхтаваных пазыцыях ды належна сустрэць ворага. З мінутнай дакладнасьцяй яны займаюць свае стаянкі. Сусед перагукаецца з суседам, група з групай, — за некалькі мінутаў

раскінуўся моцны ланцуг баявога фронту.

Усе чакаюць ворага. На пазыцыях магільная, напружаная цішыня. Ніводнага гуку, ні трэску сухога гальля пад нагамі, ні лязгу вінтовак. Фінкі ды вінтоўкі заціснутыя моцна ў руках. Кажны чуе біцьцё свайго сэрца. Што хвіліну можа паказацца вораг.

Ды гэта была толькі проба.

Сябры ўпэўненым крокам вяртаюцца на свой "хутар", здаволеныя вынікам. Яны гатовыя выканаць свой абавязак з дакладнасьцяй гадзіньніка.

"Вораг нас ніколі не застане негатовымі", — самаўпэўнена разважаюць сябры, ідучы па купінах балота. Тут, таксама, як і па ўсіх вялікіх прасторах лясоў і балотаў Беларусі беларускія партызаны гатовыя ў кажны мамэнт стаць, каб дужацца з ворагам-акупантам.

## Дзе гучыць бойка

Саколкі гудуць… Небакрай вёскі Саколкі займаецца заравам ад кіпячага там партызанскага бою з чырвоным акупантам. Наш аддзел сьпяшаецца на дапамогу братом. Мы шпаркім, раскідным шэрагам крочым з пералеску на жытнікі. Чуваць ужо нават брэх дзехцяроўкі. Цемра ўсё больш гусьцее. Вар бойкі не змаўкае ні на хвіліну. Цяпер выразна разрозьніваем груканьне нашага і чонаўскага мінамётаў. Цяпер бачым і скрайнія хаты Саколак, што шугаюць буйным полымем падпаленыя бальшавіцкімі катамі. У паўвярсьце спасьцярагаем натоўп людзей, старых жанчынаў і дзяцей. Чуецца плач. Хуткая каманда:

— Васіль і Мікіта ў разьведку! Шпарка — хто, што?

І двох сяброў маланкава зьнікаюць у кірунку дарогі. Мы крочым далей зусім не хаваючыся, бо нас скрывае ад ворага цемень ночы. Праз мінутаў 20, амаль каля самага месца бойкі, паведамляюць сябры, высланыя ў разьведку:

— Сялянаў вёскі Саколка гоняць этапам у Бабруйск. Канвой з 25 энкавудыстаў і дзесятка чырвонаармейцаў.

— Рыгорава група і два цяжкія самастрэлы: адбіць! Жадаючых далучыць да батальёну пасьля гутаркі з Мікітаю. Выкананьне паведаміць! — чуецца ціхі ды рашучы голас батальённага Янкі. Частка сяброў шпарка зьнікае ў цемры.

Пасьля кароткай каманды нашая частка ўзьнімаецца і за сваім камандзірам набягаем на ворага з левага боку. Сябры бягуць супраць сьмертаноснага граду заціміўшага нас бальшавіцкага кулямёту, ды пад нашым дружным сьмелым націскам вораг губляецца і пачынае ўцякаць.

Бойка канчаецца. Знайходзім шмат геройскаю сьмерцяю паўшых і нашых сяброў, якія болей пары трымаліся супроць акупанцкага засільля. Няма і нашага батальённага камандзіра, хоробрага Янкі Г. Ён і яшчэ двох сяброў нашага батальёну палі на полі славы, каб жыў беларускі народ.

Сэрцы беларускіх партызанаў дагарэлі ў баі за Беларусь. Працярэбленыя партызанскія рады папаўняюць новыя ахвотнікі з адбітай вёскі. На чале батальёну становіцца загартаваны ў шматлікіх баёх і адзначаны не адной баявой ранай новы адважны камандзір Максім Р.

*Лесавік*

# ТУТ І СЁНЬНЯ

" ... поча час прыйшоў раць дзержаці ..." У. Чарадзей

... Мы жывем у часы ахамелага акупацыйнага рэжыму, у часы грамадзкай абыякавасьці ды ціхмянага квахтаньня "памяркоўнай апазыцыі"... Цяперашняе грамадзтва ўжо ня верыць словам, яно глядзіць на справы! Але, ці ёсьць людзі, здольныя зараз узяць ініцыятыву ў свае рукі? Людзі, якія не гаворац, а дзейнічаюць? Людзі, здольныя стаць на чале і павесьці ўсіх астатніх? І ці, ўвогуле, існуе такая нацыянальная сіла, здольная штосьці зьмяніць? Мяркуйце самі. Але чым мацней акупацыйны рэжым, тым мацней і супраціў яму.

Адкрыйце вочы і глядзіце, як над Родным Краем паўстаюць велічныя цені Ўсяслава Чарадзея і Вітаўта Вялікага, Касьцюшкі і Каліноўскага, Вітушкі і Філістовіча. Ізноў па-над Бацькаўшчынай разьлятаецца вокліч: "Рубон!", ізноў прыйшоў час перакаваць арала на меч, ізноў становіцца актуальным лёзунг: "Воля альбо сьмерць!"

Прыйшоў час закасаць рукавы і дастаць з похваў меч справядлівасьці – МЕЧ РАГВАЛОДА.

Адылі, колькі ўжо будзем слухаць байкі пра "правы чалавека" і глядзець, як пад ботам маскаля гіне найслаўнейшая ў сьвеце Нацыя? Ці не пара ўжо ўспомніць, хто мы такія і адкуль ідзе адлік нашага радаводу? Ці не абрыдла ўжо пакорна глядзець, як расейскія шавіністы зьбіваюць тваіх дзяцей за тое, што тыя адважваюцца размаўляць на роднай мове? Прыслухайся! Ці не загаманіў у табе вольны, ганарлівы, ваяўнічы дух продкаў? Ведай, што Нацыя чакае цябе. Кліча на абарону інтарэсаў тваіх дзяцей.

**Памятай, што толькі ты-валодар лёсу сваіх дзяцей і абаронца гонару продкаў!**

Ты павінен вырашыць, вырашыць неадкладна, вырашыць **тут і сёньня.** Памятай, што толькі ты - валадар лёсу сваіх дзяцей і абаронца гонару продкаў! Ты атрымаў у спадчыну ад дзядоў самае дарагое: Славу, Зямлю, Волю! Табе і толькі табе прыйдзецца рана ці позна бараніць гэтую спадчыну. Але калі ня сёньня, - то калі? Калі ня ты, - дык хто? Калі трэба, - значыць магчыма! Будзь разам з намі і Бацькаўчынай. Тут і сёньня.

*А. Зьніч*

# Сьвята ў Навагрудку

Сьвята сярэдневечнае культуры ў колішняй беларускай сталіцы Навагрудку, што адбывалася 24-25 чэрвеня, ўдалося на славу. Непазбаулены некаторых недарэчных хібаў фестываль сярэдневечнай культуры ў Навагрудку стаў значнай падзеяй культурнага жыцьця краіны. Пачалося сьвята ўрачыстым шэсьцем рыцараў закаваных у браню. Удзельнікі шэсьця прадэманстравалі ўзоры сярэдневечнай зброі, дасьпехі, адзеньне таго часу.

У суботу мусілі адбывацца спаборніцтвы вершнікаў і групавыя турніры пешых рыцараў. Але стаяла такая пякельная сьпёка, што здавалася, нібы рыцаравы кальчугі вось-вось пачнуць плавіцца пад промнямі сонца.

На наступны дзень меркавалася правесьці абарону замку ад крыжакоў, для чаго да вежаў былі адмыслова зробленыя драўляныя прыбудовы. Пасьля ранішняй імшы пачаўся штурм цьвердзі. Але схіл, па якім "крыжакі" мусілі ўзыходзіць да замку, быў такі сьлізкі, што рух угору узброеных ваяроў быў амаль немагчымым. Замак абаранілі бяз бою.

Узьнёсла-сьвяточны настрой стваралі воклічы:"Жыве Беларусь!", якія на нейкі момант захапілі пляц у час вечаровага канцэрту. Рэакцыя блакітных "рыцараў" была адпаведнай і нашыя ваяры ў латах і глядачы-сузіральнікі раптам сьціхлі і бясслаўна адступілі. Ваярскі дух сярэднявечча саступіў месца знаёмаму адчуваньню паразы.

У Навагрудку адчувалася, што ваярскі дух нашай моладзі гартуецца цяпер ня ў рыцарскіх клюбах, а ў арганізацыях іншага кшталту, у якіх ёсьць ня толькі ідэя, але і мэта--- высакародная мэта вызваленьня Бацькаўшчыны. Гэтае змаганьне--- рэальна як само жыцьцё. Гэта неабходнасьць, а не забаўка тых, хто жыве паводле раманаў Толкіена. Гэта сапраўдная барацьба за жыцьцё, за годнае месца пад сонцам у якой неабходна перамагчы, каб жыла Нацыя.

*Воля Беларуска.*

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ !

Спартова-патрыятычная арганізацыя "КРАЙ" з мэтай прапаганды нацыянальнай ідэі разгарнула выдавецкую дзейнасьць. У сьвет выйшлі наступныя выданьні.

1."**Абэцэда беларускага нацыяналізму**"

Гэты твор зьмяшчае асноўныя палажэньні ідэалёгіі беларускага нацыяналізму. Гэта зьведзеныя ў адзіную сістэму ідэі нашых папярэднікаў(К.Каліноўскага, В. Ластоўскага, В. Гадлеўскага). Выданьне карыстаецца вялікім попытам, таму перавыдадзена.

- В. Гадлеўскі. "**Патрэба нацыянальнае ідэі**"

У брашуры сабрана некалькі артыкулаў аднаго з ідэолягаў беларускага нацыяналізму і арганізатара Беларускае Незалежніцкае Партыі Вінцэнта Гадлеўскага. Увесь наклад разышоўся.

- **"Чаму беларус абавязаны быць нацыяналістам?"**

Выданьне, якое прапагандуе ідэі нацыянальна-вызвольнай барацьбы Беларускага Народа. Увесь наклад разышоўся.

- С.Ёрш. "**Беларуская партызанка**".

Кароткі нарыс гісторыі антынямецкай партызанкі.

- **"Нацыяналізм у сьвеце"(частка першая)**

Выданьне апавядае пра нацыяналістычныя арганізацыі сьвету. Тут вы знойдзеце інфармацыю пра IRA, Нацыянальны Фронт, Афрыканерскі Рух Супраціву, ЕТА і "Новых правых".

6. **"Беларускім героям-- народную памяць".**

Гэты твор зьмяшчае гістарычную інфармацыю пра Слуцкі Збройны Чын і апавядае пра нашую акцыю ў Вызне 27 лістапада 1999 года.

Наклад разышоўся.

Да друку рыхтуюцца:

**1.Нацыяналізм у сьвеце(частка другая)**

2.**"Гародня . 25 красавіка 1999 года"**

Брашура прысвечана першай акцыі СПА "КРАЙ".

**Вы можаце набыць брашуру "Нацыяналізм у сьвеце"(ч.1), калі зьвернецеся на адрас: 220037 г. Менск, а/с 49**

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

*Добры дзень, шаноўная рэдакцыя! Лістуе да вас немалады нацыяналіст з Гомеля. Сталым чытачом вашай газэты і даю чытаць сваім сябрам . У " Голасе Краю " мне падабаецца літаральна ўсё , але найбольш рубрыка " З гісторыі вызваленчых змаганьняў ". Уражвае рубрыка " Наша барацьба ". Хаця я не магу прымаць чынны ўдзел у дзейнасьці СПА "КРАЙ" , але я ўсім сэрцам і усімі думкамі падтрымліваю вашыя памкненьні да пабудовы Беларускую Нацыянальную Дзяржаву. Я лічу, што гэта справа сьвятая і карысная для Беларускага Народу. Але справа ў тым, што Вы мусіце абапірацца ў сваёй дзейнасьці на шырокія масы Беларускага Народу і з гэтай мэтай пашыраць сваю выдавецкую дзейнасьць. Я разумею, што для гэтага патрэбны грошы. Але як кажуць- "хто шукае-той знаходзіць"*

**СЛАВА ГЕРОЯМ !**

**Шукаем зьвесткі пра ўдзельнікаў антыбальшавіцкай партызанкі . Рэдакцыя.**

Запрашаем да сурацоўніцтва журналістаў і тэхнічных адмыслоўцаў.

Для жадаючых весьці прапаганду ідэяў беларкскага нацыяналізму, далучыцца да дзейнасьціСПА "КРАЙ" просім пісаць па адрасу:220037 г.Менск а/с49

***Вялікі дзякуй за дапамогу ў выданьне гэтага нумару спадару А. і спадару П.***

Газэта "Голас Краю" заснавана спартова-патрыятычнай арганізацыяй "КРАЙ". Год заснаваньня 1999
Рэдактар Яўген Садоўскі.



Адрас для ліставаньня:
220037 г. Менск а/с49
E-mail:spa_kraj@hotmail.com